# Напад сьведчыць пра посьпех

... Улада жыве сваёй лёгікай, якую ніякімі відавочнасьцямі не адмяніць. Напрыклад, для таго, каб зьменшыць грамадзкі ўнутраны і па-замежны ўплыў Усебеларускага Зьезду, больш лягічным з боку БТ і афіцыйных газэтаў быў бы выгляд, што нічога не адбылося: ці так важна, якія там "отморозки" у чарговы раз самі сябе віталі воклічам "Жыве Беларусь!"... Аднак лёгіка дзяржаўна-прапагандысцкая вымагае ад ейных служкаў "адпрацоўкі" свайго кавалаку хлеба з маслам і штодзённай дэманстрацыі "вернасьці" рэжыму. Яна й дыктуе якраз алягічныя паводзіны: штодзённы праклён лукашэнкаўскай прапагандысцкай машынай толькі дадае форуму і ягоным вынікам высокага значэньня, якога яны сапраўды вартыя.

Журналістаў, замежных гасьцей і дыпляматычных назіральнікаў найперш уразіла прадстаўнічасьць Зьезда – як колькасная (блізу 1500 чалавек), так і якасная. Выкарыстаньне ўсіх вядомых насёньня дэмакратычных формаў прадстаўніцтва забясьпечыла выбраньне на форум дэлегатаў, якія ахапілі максымальна шырокі спэктар беларускага грамадзтва па ўсіх вартасных парамэтрах: узросьце і прафэсіях, адукацыі, месцы жыхарства, палітычнай арыентацыі і грамадзкай актыўнасьці, нацыянальнасьцях. Навукоўцы і адміністратары, рабочыя і вяскоўцы, літаратары й інжынэры, настаўнікі і лекары, студэнты і вайскоўцы, прафсаюзныя актывісты і праваабаронцы, партыйныя функцыянэры і выкладчыкі адукацыйных установаў, дзяржаўныя служачыя, нядаўнія кіраўнікі краіны й цяперашнія мясцовыя дэпутаты – здавалася, што Зьезд фармавалі былыя спрактыкаваныя партапаратчыкі, якія як ніхто ўмелі забясьпечваць патрэбны склад любой імпрэзы. Аднак, як вядома, абыйшлося бязь іх – такой была Воля беларускага грамадзтва, якое нечакана для ўлады (а ў нечым, праўду сказаць, і для сябе самога) адгукнулася на небясьпеку страты Незалежнасьці – сьвядомасьцю, сьмеласьцю і арганізаванасьцю.

Зьезд віталі Івонка Сурвіла, Васіль Быкаў, Зянон Пазьняк, Сямён Шарэцкі. Тэлеграмы даслалі таксама Вацлаў Гавэл, Генадзь Удавенка, Юры Кастэнка. Непасрэдны спачувальны ўдзел у форуме прынялі прадстаўнікі амбасадаў Польшчы, Францыі, Італіі, Сойму Літвы. Відавочна, што за ўсім уважліва сачылі некалькі дзясяткаў "вачэй і вушэй" адпаведных расейскіх і ўласных спэцслужбаў. Безумоўна, што ўва ўсіх данясеньнях і рапартах магло быць пазначанае толькі адно: зьезд прайшоў вынікова. (Відаць, на гэтай падставе рэжым аддаў БТ і сваім газэтам загад – аднак, відавочна запозьнены – максымальна зьменшыць значэньне форуму і суцішыць ягоны рэзананс).

Зьезд выслухаў шэраг філязоўскіх, гістарычных, палітычных і эканамічных дакладаў і выступаў нацыянальна-канцэптуальнага і практычнага зьместу *("ТМ" сёньня й надалей падасьць найбольш цікавыя вытрымкі зь іх).* Прыняў Акт Незалежнасьці. Выказаў гатовасьць сабрацца на сваю другую сэсію ў любы час, калі будзе патрэба ў прыняцьці больш практычных захадаў і мераў для абароны дзяржаўнага Сувэрэнітэту.

... Астатнія падрабязнасьці форуму штодзень падаюцца рэжымнай прапагандай, успрымаючы якую трэба мець на ўвазе толькі адно: там, дзе гаворыцца "не" – насамрэч было "так".

***Рэдакцыйны АГЛЯДАЛЬНІК па пытаньнях палітыкі***

*Фота IREX*

# Акт Незалежнасьці Беларусі

Мы, дэлегаты Ўсебеларускага Зьезда, паўнамоцныя прадстаўнікі народа Беларусі,

– усьведамляючы адказнасьць за будучыню краіны;

– напамінаючы, што Рэспубліка Беларусь зьяўляецца дзяржавай-заснавальніцай Арганізацыі Аб'яднаных Нацыяў;

– грунтуючыся на прынцыпах і нормах міжнароднага і нацыянальнага права,

**ЗАЯЎЛЯЕМ:**

Беларускі народ мае тысячагадовую гісторыю сваёй дзяржаўнасьці: ад Полацкага княства, Вялікага Княства Літоўскага, Беларускай Народнай Рэспублікі да сучаснай Рэспублікі Беларусі. Прынятая Вярхоўным Саветам 27 ліпеня 1990 году Дэклярацыя аб дзяржаўным сувэрэнітэце сьцьвярджае яго дзеля галоўнай мэты – свабоднага разьвіцьця і дабрабыту, годнага жыцьця кожнага грамадзяніна Беларусі. Яна абвяшчае незалежнасьць краіны ў вонкавых дачыненьнях, вяршэнства, самастойнасьць і паўнату дзяржаўнай улады, дзеючай на падставе правамоцных законаў. Любыя дзеяньні супраць сувэрэнітэту Беларусі і нацыянальнай дзяржаўнасьці недапушчальныя й павінны карацца як найвялікшае злачынства.

Дзяржаўны сувэрэнітэт быў замацаваны ў Канстытуцыі, прынятай 15 сакавіка 1994 года. Паводле яе Беларусь увайшла ў сьвет як нэўтральная, мірная і бязьядзерная дзяржава.

Незалежнасьць Беларусі ёсьць набыткам ня толькі сёньняшняга пакаленьня, але і нашых продкаў і належыць нашчадкам. Сувэрэнітэт краіны ня можа быць абмежаваны або скасаваны праз рашэньні дзяржаўных асобаў і органаў, нават праз рэфэрэндум.

Сёньня незалежнасьць Беларусі знаходзіцца пад пагрозай. Рэальнай небясьпекай сталася дамова аб стварэньні так званай саюзнай дзяржавы з Расеяй, падпісаная 8 сьнежня 1999 году прадстаўнікамі беларускіх ўладаў, чыя легітымнасьць не прызнаецца ў большасьці краінаў сьвету. Мы – за добрыя, раўнапраўныя і ўзаемавыгодныя адносіны з усімі краінамі сьвету, і асабліва з суседзямі: Расеяй, Украінай, Польшчай, Літвой, Латвіяй. Але мы не жадаем станавіцца рэгіёнам іншай дзяржавы. Мы не дазволім ліквідаваць нашую незалежнасьць і абмежаваць наш сувэрэнітэт, зьнішчыць нашую краіну.

Незалежнасьць – гэта натуральнае права ўсяго народа, кожнага грамадзяніна. Толькі яна і толькі дзяржаўны сувэрэнітэт адкрываюць шлях нашай краіне ў эўрапейскую і міжнародную дэмакратычную супольнасьць.

Мы, дэлегаты Ўсебеларускага Зьезду,

**СЬВЕДЧЫМ**

Богам і гісторыяй дадзенае нашаму народу права мець сваю незалежную дзяржаву зь яе адвечнымі сымбалямі – бел-чырвона-белым сьцягам і гербам "Пагоня".

**АБВЯШЧАЕМ**

дзяржаўны сувэрэнітэт неад'емнай каштоўнасьцю беларускага народа.

**ПРЫЗНАЁМ**

ня маючымі законнай сілы любыя пагадненьні і рашэньні, скіраваныя на скасаваньне альбо абмежаваньне сувэрэнітэту Беларусі.

**ЗАКЛІКАЕМ**

усіх грамадзянаў Беларусі і ўсіх суайчыньнікаў за мяжой згуртавацца вакол ідэяў Акта Незалежнасьці Беларусі, бараніць незалежнасьць Айчыны; парлямэнты і ўрады дэмакратычных дзяржаваў, міжнародныя арганізацыі і сусьветную грамадзкасьць забясьпечыць гарантыі сувэрэнітэту Рэспублікі Беларусі.

Жыве Беларусь!

Прынята Ўсебеларускім Зьездам

*29 ліпеня 2000 году ў Менску*

Мы - гаспадары на сваёй зямлі

## Разам пераможам

***З выступу в.а. старшыні Кансэрватыўна-Хрысьціянскай партыі БНФ Юрыя Беленькага на Ўсебеларускім Зьезьдзе***

... Расея ў нашай краіне праз сваю каляніяльную адміністрацыю, сваю "апазыцыю" імкнецца разбурыць усе структуры беларускай дзяржаўнасьці – парлямэнт, мясцовае самакіраваньне, эканоміку, войска, мову, культуру, сымболіку.

Перад грамадзтвам стаіць пытаньне: як змагацца з гэтым? Нямала людзей лічаць, што абаперціся ў гэтым змаганьні можна на зьнешнія фактары – альбо на Ўсход, альбо – на Захад. Гэта ілюзія.

Сьведчаньнем "спрыяльнасьці" усходняга фактару зьяўляецца нядаўні зварот кіраўнікоў фракцыяў Расейскай Думы да Лукашэнкі, дзе прапаноўваецца прыбраць усе перашкоды да "інтэграцыі" – чытай: інкарпарацыі Беларусі ў Расею.

Сьведчаньнем "спрыяльнасьці" заходняга фактару могуць служыць настойлівыя захады эўрапейскіх структураў схіліць беларускую апазыцыю да ўдзелу ў лукашэнкаўскім выбарчым фарсе.

КХП лічыць, што асноўным фактарам, які можа карэнным чынам зьмяніць сытуацыю, ёсьць унутраны фактар – кансалідацыя беларускага грамадзтва для змаганьня за незалежнасьць Айчыны. У гэтай сувязі мы выступілі з ініцыятывай "Беларуская салідарнасьць", падчас якой заклікаем грамадзянаў да ўдзелу ў масавых акцыях пратэсту супраць разьмяшчэньня расейскіх ваенных аб'ектаў на нашай тэрыторыі, праводзім збор подпісаў за непрызнаньне "саюзнага дагавору". Альтэрнатывай рэжыму павінны стацца структуры сапраўды народнай улады – у гэтай сувязі мы выступаем з ініцыятывай стварэньня "Грамадзянскага Парлямэнту".

Разам пераможам!

*29 ліпеня 2000 году, Менск.*

## Межы талерантнасьці

***З выступу старшыні БНФ "Адраджэньне" Вінцука Вячоркі на Ўсебеларускім Зьезьдзе***

Цяжкі, але неўнікнёны абавязак адказных палітычных сілаў краіны, якія дзейнічаюць тут і цяпер (у тым ліку БНФ) – не паўтараць ранейшых памылак, не рабіць новых, а знайсьці адэкватны адказ на пагрозу пазбавіць Бацькаўшчыну незалежнасьці. Рэжым цяміць толькі сілу. Нашая сіла і моц у тым, што, нарэшце, за колькі гадоў палітычныя, грамадзкія, прафсаюзныя арганізацыі, якія вызнаюць як каштоўнасьць незалежнасьць і свабоду, лучацца ў аб'яднаную апазыцыю. Нашае яднаньне й акцыі заўважаныя сьветам, які справядліва ня любіць тых, хто толькі ные, а дапамагае толькі дзейсным і моцным. Нас, незалежнікаў, пачалі, нягледзячы на расейскую процівагу, падтрымліваць на міжнароднай арэне. Ня можна змарнаваць гэтага даверу, як і ўласных агульных здабыткаў: Рады БНР, носьбіта сымбалічнай пераемніцы беларускай несавецкай дзяржаўнасьці, легітымнага Вярхоўнага Савету 13 скліканьня, які ўстояў пагрозаў і спакусы, грамадзка-палітычнай еднасьці ў змаганьні за сувэрэнітэт, сацыяльнае разьвіцьцё і дэмакратыю. Менавіта таму, што гэта ў нас ёсьць, рэжыму і Маскве дазарэзу патрэбная легітымізацыя "саюзных дамоўленасьцяў". Разьлік на восеньскія выбары. Рашэньне апазыцыі адназначнае: мы не бярэм у іх удзелу ні пад якім выглядам да моманту выкананьня ўладай вядомых 4-х умоваў. Нашая салідарная пазыцыя рэальна ўплывае на станоўчую міжнародную палітыку ў беларускім пытаньні, прадвызначае непрысланьне назіральнікаў і, адпаведна, непрызнаньне вынікаў выбараў. Тыя, хто паддасца на спакусу ўладнага "карыта" і пойдуць на выбары (без рэальных магчымасьцяў уплываць на палітыку ў мяркуемай палаце), возьмуць на сябе вельмі сур'ёзную адказнасьць за маральныя і палітычныя наступствы такога кроку. Што тычна БНФ, дык мы распачнем палітычную восень шырокім адзначэньнем Дня беларускай вайсковай Славы, які прыпадае на 8 верасьня. Беларуская талерантнасьць не павінна распаўсюджвацца на ворагаў нашай незалежнасьці.

*29 ліпеня 2000 году, Менск*

**ВЫБАРЫ – 2000. КАНЦЭПЦЫЯ. ЗЬМЕСТ. ПРАКТЫКА**

# Якія выбары нам прапануюць

*Дагэтуль у грамадзтве, у палітычным асяродзьдзі няма супольных адносінаў да маючых адбыцца восеньскіх выбараў. Ясна толькі, што для ўлады яны маюць выключна важкае значэньне, бо на карце стаіць пакуль нявырашанае Лукашэнкам пытаньне аб міжнародным прызнаньні ягонага рэжыму (няхай сабе й недэмакратычным, але хаця б законным).*

*Кожны самастойна будзе вырашаць свае адносіны як да факту выбараў, так і да іхняга зьместу. Аднак гэтае стаўленьне (якім бы ні было) мусіць быць апраўданым, разважлівым і асэнсаваным. Менавіта з павагі да нашых чытачоў мы вядзем гэтую рубрыку: думайце, разважайце, аспрэчвайце, а галоўнае – прымайце сьвядомыя рашэньні...*



На 15 кастрычніка 2000 году прызначаныя выбары ў Палату прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусі – у парлямэнт, прававы статус якога яшчэ ня вызначаны, бо адпаведнага закону прынята пакуль не было.

Чаго чакаць ад выбараў? Паводле якіх правілаў яны будуць праходзіць? Ці здолеюць яны вырашыць тыя складаныя палітычныя й прававыя праблемы, якія паўсталі ў краіне пасьля рэфэрэндума 1996 году? Паспрабуем адказаць на гэтыя пытаньні.

***Куды прапануецца выбіраць?***

Улады не хаваюць, у які менавіта парлямэнт будуць праходзіць выбары. Гэта – так званы Нацыянальны сход. Нагадаем: ягоная ніжняя палата – Палата прадстаўнікоў – была створаная з дэпутатаў распушчанага Вярхоўнага Савету. Прававой асновай гэтаму стаўся ўказ А.Лукашэнкі ад 27 лістапада 1996 году "Аб ухваленьні сьпісу дэпутатаў Вярхоўнага Савету Рэспублікі Беларусі, уключаных у склад Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусі". І вышэйшая палата Нацыянальнага сходу была ўтвораная на падмурку сумнеўнага ў сэньсе законнасьці дэкрэту ад 11 сьнежня 1996 году "Аб замацаваньні Палажэньня аб выбарах сябраў Савету Рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусі".

Прайшло амаль чатыры гады. "Прызначаны" А.Лукашэнкам парлямэнт не атрымаў ані міжнароднага прызнаньня, ані даверу насельніцтва краіны. Да сёньня ніхто ня можа высьветліць: каго прадстаўляюць "палатачныя" дэпутаты? Тое ж пытаньне паўстае і пра сябраў Савету Рэспублікі: ці можна лічыць іх прадстаўнікамі народу й на якой падставе А.Лукашэнка ўзурпаваў права прызначаць восем "сэнатараў"?

Падрыхтаваны праект закону "Аб Нацыянальным сходзе Рэспублікі Беларусі" пазбаўляе парлямэнт найважнейшых функцыяў заканадаўчага органу. Скліканьне сэсіяў, павесткі паседжаньняў, унясеньне, абмеркаваньне й прыняцьце законаў пастаўленыя пад жорсткі кантроль прэзыдэнта. Парлямэнт цалкам залежыць ад "прэзыдэнцкай касы". Ён ня можа ўносіць папраўкі ў Канстытуцыю й тлумачыць яе.

Толькі гэтых "навацыяў" дастаткова, каб упэўніцца ў палітычнай і прававой "імпатэнцыі" будучага парлямэнту.

***Паводле якіх правілаў будуць адбывацца выбары?***

Нядаўна прынятый Выбарчы кодэкс устанаўлівае мноства абмежаваньняў правоў грамадзянаў па вылучэньню імі сваіх прадстаўнікоў у парлямэнт. У прыватнасьці, кандыдатамі на дэпутаты ня могуць быць вылучаныя асобы, якія маюць ня зьнятую судзімасьць. Гэтае палажэньне супярэчыць арт.64 Канстытуцыі, якая пазбаўляе пасыўнага выбарчага права толькі тых грамадзянаў, якіх суд прызнаў недзеяздольнымі й тых, хто знаходзіцца згодна з вырокам суда ў турме. Канкрэтна гэта азначае, што М.Чыгір, М.Статкевіч, В.Шчукін, якія былі асуджаныя ўмоўна й атрымалі адтэрміноўку ў выкананьні прысуду, паводле Выбарчага кодэксу ня будуць дапушчаныя да ўдзелу ў выбарах, хоць паводле Канстытуцыі яны такое права маюць.

Неабходна зьвярнуць увагу на захаваньне мажарытарнай сытэмы выбараў, што даказала сваю "надзейнасьць" падчас выбараў пры савецкай уладзе. Яна дазваляе кантраляваць працэс рэгістрацыі кандыдатаў на дэпутаты й на 100% гарантуе выбраньне "сваіх".

Да апошняга абмежаваныя магчымасьці кандыдатаў у часе правядзеньня перадвыбарчага агітаваньня. У той жа час захаваны чысьцютка савецкі падыход да фінансаваньня выбараў – выключна коштам рэспубліканскага бюджэту. На выбарчую кампанію кандыдату выдзяляюць ня больш за 50 мінімальных заробкаў. Што можна зрабіць за гэтыя грошы? Ці толькі надрукаваць тысячу ўлётак...

Мэханізм кантролю за выбарамі, які прапануецца ў Кодэксе, не забясьпечвае празрыстасьці выбараў. Наадварот – ён адчыняе шырокія магчымасьці для рабленьня падтасовак ды іншых фальсыфікацыяў.

Некалькі словаў аб папраўках у гэты Выбарчы кодэкс, якія ўлада прадставіла ў якасьці вынікаў дзейнасьці так званага "грамадзка-палітычнага дыялёгу". Ацэнім асноўныя зь іх з пункту гледжаньня іхняга ўплыву на выбарчы працэс.

1. У новай рэдакцыі артыкула 13 ужываецца паняцьце "назіральнік" й расьпісаныя ягоныя правы. Аднак правоў гэтых яўна недастаткова каб забясьпечыць надзейны кантроль за выбарамі. Акром таго, некаторыя з гэтых правоў наогул будзе вельмі цяжка рэалізаваць. Напрыклад, назіральнікі маюць права знаёміцца з пратаколамі ўчастковых камісіяў аб выніках галасаваньня, але копіі пратаколаў яны павінны рыхтаваць уласнымі сіламі й сродкамі. У гэты ж час назіральнікам забараняецца "утвараць перашкоды ў правядзеньні галасаваньня", а таксама "знаходзіцца каля сталоў выдачы бюлетэняў, кабінаў і скрыняў для галасаваньня" й г.д.

2. Зьменены парадак запаўненьня выбарчага бюлетэню. Падчас галасаваньня выбаршчык можа ставіць любы знак у пустым квадраце, што месьціцца праваруч прозьвішча кандыдата, за якога ён галасуе.

3. Палітычныя партыі атрымалі права вылучаць сваіх кандыдатаў пры ўмове, калі на тэрыторыі адпаведнага раёну ці гораду маецца створаная ў вызначаным парадку да прызначэньня выбараў арганізацыйная структура партыі. Першапачаткова патрабавалася мець у акрузе пярвічку, зарэгістраваную ў мясцовых органах улады.

4. Новай ёсьць норма, якая абавязвае кандыдатаў на дэпутаты прадстаўляць дэклярацыю аб даходах і маёмасьці.

Ня трэба быць аналітыкам, каб зразумець касмэтычны характар зьменаў у Выбарчы кодэкс.

***Што дадуць гэтыя выбары?***

Правядзеньне выбараў у Нацыянальны сход, які адпачатку пазбаўлены асноўных атрыбутаў парлямэнту (незалежнасьць, паўнамоцнасьць, самастойнасьць), анічога ня зьменіць у палітычным жыцьці краіны. Адзін псэўдапарлямэнт зьменіцца на другі. Нязьменнай застанецца адзінаасобная ўлада. Парлямэнт будзет выконваць выключна дэкаратыўную ролю.

Пры ўсталяваных Выбарчым кодэксам правілах ніхто з апазыцыі ў парлямэнт папросту не патрапіць. Таму для апазыцыі няма розьніцы – удзельнічай у выбарах, ці не, а вынік будзе аднолькавым – нулявым. На той выпадак, калі нехта з "чужых" усё ж прабярэцца ў парлямэнт, прадугледжаны мэханізм так званага датэрміновага адкліканьня. Надзвычайнай мерай можа быць роспуск любой з палатаў.

Прадугледжаны пераход да прафэсійнага прынцыпу фармаваньня "ніжняй" палаты. Магчыма, гэта крыху падвысіць якасьць заканадаўчай дзейнасьці. Але ў любым выпадку захаваецца залежны стан парлямэнту ад выканаўчай улады, і гэта – вырашальная характарыстыка. Як і раней, законы будуць прымацца пад дыктоўку чыноўнікаў з адміністрацыі прэзыдэнта.

***Які парлямэнт нам патрэбны?***

У сьвятле апошніх падзеяў усё больш відавочным становіцца неабходнасьць узнаўленьня ў краіне незалежнага парлямэнту, які б стаўся выразьнікам волі нацыі й дзейнічаў у інтарэсах усяго народу.

Па меркаваньню незалежных экспэртаў, Беларусі патрэбны аднапалатны парлямэнт. З улікам колькасьці насельніцтва й існуючага адміністратыўнага падзелу краіны дастакова будзе 260 дэпутатаў. Абраны на 5 гадоў, сапраўдны парлямэнт павінен пастаянна дзейнічаць як прафэсійны орган улады.

Каб пасьпяхова выконваць свае функцыі, парлямэнт павінен валодаць аўтаномнымі фінансовымі, матэрыльна-тэхнічнымі й арганізацыйнымі магчымасьцямі.

Мы – на парозе пераменаў. Гэтыя перамены залежаць ад нас, нашага выбару, у тым ліку – і падчас маючых адбыцца выбараў. Пойдзем мы на іх паводле сцэнару ўлады ці праігнаруем – гэта павінен вырашыць кожны выбаршчык. Але ў любым выпадку чалавек абавязаны зрабіць сьвядомы выбар і ня даць сябе падмануць "штатным" зазывалам ды агітатарам. Выбар трэба зрабіць асабісты, зыходзячы з свайго ўласнага стаўленьня да палітыкі ўладаў. А яшчэ трэба падумаць ад пэрспэктывах разьвіцьця краіны. Хочам мы таго ці не, нам усё роўна давядзецца вылазіць з таго "балота", у якім мы валтузімся вось ужо некалькі гадоў. І выходзіць зь яго трэба на "сталбавы" шлях эўрапейскай цывілізацыі – узнаўляць разбураную ў лістападзе 1996-га дзяржаўнасьць.

***Міхаіл ПАСТУХОЎ,***
***доктар юрыдычных навук, прафэсар***

**РОЗДУМ ПАСЬЛЯ СУСТРЭЧЫ**

# "Палітычнай матывацыі недастаткова..."

Тыдзень таму, якраз у дзень выхаду папярэдняга нумару нашай газэты, у Магілёве ў памяшканьні мясцовае філіі Фонду імя Льва Сапегі адбылася сустрэча грамадзкасьці гораду з Амбасадарам, кіраўніком Кансультацыйна-назіральнай групы АБСЭ ў Беларусі спадаром Хансам-Георгам Вікам, да якога далучыўся старшыня Каардынацыйнай рады па назіраньні за выбарамі ў Беларусі спадар Мячыслаў Грыб.

Трэба адзначыць, што сустрэча і была прысьвечаная пытаньням незалежнага назіраньня за маючымі адбыцца восеньскімі выбарамі ў Палату. Таму на яе прыйшлі ў асноўным (акрамя нешматлікіх журналістаў) менавіта актывісты грамадзкага назіраньня за выбарамі, а таксама сябры праваабарончых арганізацыяў абласнога цэнтру й вобласьці й прадстаўнікі дэмакратычных партыяў.

Пазыцыі высокіх гасьцей цалкам супадалі: неабходна назіраць за выбарамі! Палітычнай матывацыі для няўдзелу недастаткова! Яшчэ лепш было б усім асноўным апазыцыйным партыям выставіць сваіх кандыдатаў, альбо, як меней, вылучыць назіральнікаў...

Навошта ж гэтае назіраньне, калі замест выбараў кіруючы рэжым актыўна рыхтуе свой звычайны фарс (кшталту выбараў у мясцовыя саветы летась ці рэфэрэндуму-96), чаму ёсьць дастаткова пераканаўчых доказаў? Да таго ж рэжым цынічна адкідае вядомыя 4 умовы апазыцыі й міжнароднай дэмакратычнай супольнасьці, адразу дэманструючы непавагу да ўсіх і ўсяго.

Ну і што з таго? – кажа спадар Вік. Калі выбары (няхай сабе й фарс) пройдуць, а незалежных кандыдатаў на дэпутаты, а тым больш назіральнікаў ад грамадзкасьці на іх ня будзе, "кіруючая партыя" (гэта назоў нашага рэжыму паводле сп.Віка) спакойна аб'явіць на ўвесь сьвет, што "усё было чэсна".

Ну і што з таго? – заўважалі ў адказ удзельнікі сустрэчы. Ці мала што рэжым заяўляў і заяўляе, – кошт ягоных абяцаньняў ды заяваў даўно вядомы. Чытаць іх трэба, як у савецкія часы, – наадворот.

А вось і памыляецеся, – даводзіў спадар Вік. Калі "кіруючая партыя" абвесьціць на ўвесь сьвет, што яна перамагла, а вы не прадставіце абгрунтаваных (дакумэнтальных) доказаў адваротнага, – каму паверыць? А таму, вынікала з развагаў эўрапейскага пасланца, ***відавочны фарс можна будзе і выдаць і прыняць за сапраўдныя выбары!*** (Падалося, што і сам Амбасадар будзе гатовы зьмірыцца з такім паваротам падзеяў).

Што ж, – скажа спрактыкаваны ў палітыцы беларускі патрыёт, КНГ АБСЭ таго і дамагаецца ўжо некалькі год – легітымізацыі рэжыму Лукашэнкі.

Аднак я вымушаны буду запярэчыць: зусім ня мае падобнай задачы гэтая місія. Наадварот, сп.Вік мусіць быць зацікаўленым у наладжваньні дыялёгу паміж варагуючымі бакамі грамадзтва. Каб прадухіліць рэвалюцыйны (гвалтоўны) шлях вырашэньня беларускага палітычнага процістаяньня. Мо таму й гатовы Амбасадар на любыя "выбары" – абы "мір і стабільнасьць". Таму настойліва "працуе" з тымі, хто ня выйшаў зь "перамоўнага працэсу з уладай", як гэта даўно зрабіла КХП БНФ Зянона Пазьняка (а таму, як зазначыў сп.Вік, "зь ёю ўсё ясна"). З тымі ж, з кім яшчэ ня ясна, праца працягваецца, каб зразумелі: самога па сабе невыкананьня ўладай 4-х умоваў альбо чаго іншага ***недастаткова*** (паводле Амбасадара) для аўтаматычнага непрызнаньня эўрапейскай супольнасьцю вынікаў беларускіх выбараў. Такія, відаць, у эўрапейскай дэмакратыі правілы й манэры.

Спадар Грыб у сваю чаргу таксама заклікаў прысутных актыўна "змагацца за непрызнаньне" (значыць – фіксаваць парушэньні выбарчага заканадаўства, прычым ужо сёньня), а не ўхіляцца ад барацьбы. Да гэтых заклікаў стомлены пад канец сустрэчы сп.Вік дадаў літаральна наступнае: калі вы будзеце з прынцыповых пазыцыяў ня ўдзельнічаць у фарсе, тады ніколі не дачакаецеся нічога добрага, аж пакуль не памрэце. Разгублены перакладчык перапытаў Амбасадара, ці правільна ён пачуў выраз "pass away", на што той пацьвердзіў, што – так, правільна.

(Да слова, праблема нашага "дзьвюхмоўя" перад КНГ не стаіць: пераклад сп.Віка рабіўся на "агульную" мову народаў СССР, а невялічкая брашурка аб мэтах і задачах АБСЭ, распаўсюджаная на сустрэчы, была выдрукаваная, зразумела ж, той жа моваю. Што, дарэчы, ня выклікала аніякіх пярэчаньняў з боку прысутных актывістаў грамадзкага назіраньня, у большасьці публічна расейскамоўных).

Што яшчэ можна распавесьці пра пазыцыю кіраўніка КНГ? Наколькі я зразумеў, паводле сп.Віка, апазыцыя мусіць удзельнічаць у любым палітыка-масавым мерапрыемстве ўлады, каб кожнага разу "дакумэнтальна сьведчыць аб канкрэтных парушэньнях і ўвогуле аб недэмакратычным характары гэтых акцыяў".

P.S. Як тут не паспачуваць сябрам многіх дэмакратычных партыяў, якія ўвесь час шукаюць "цывілізаваныя формы палітычных паводзінаў з улікам рэальнасьцяў", замест таго, каб ... Хаця іхныя паводзіны – гэта выключна іхняя справа. Вось толькі грамадзтва шкада, не гаворачы ўжо пра "народ".

Адзін з франтаўцаў пасьля сустрэчы сказаў у прыватнай размове з карэспандэнтам "ТМ", што тыя сябры дэмакратычных партыяў, якія пойдуць фіксаваць парушэньні на выбарчыя ўчасткі пры тым, што гэтыя партыі прынялі рашэньне аб няўдзеле ў выбарах, папярэдне павінны былі б "пакласьці свае партбілеты на стол".

Выглядае на слушную прапанову.

***Віктар СУДНІК***

